№№61–62
(3600–3601)

17 красавіка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



СУСТРЭЧА

# Андрэй Саннікаў і Зміцер Бандарэнка на свабодзе

*Экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і яго бліжэйшы паплечнік Зміцер Бандарэнка больш як праз год пасля ўдзелу ў выбарчай кампаніі абнялі сваіх блізкіх.*

*Саннікаў быў вызвалены вечарам у суботу. Экс-кандыдата ў прэзідэнты ноччу прывезлі з віцебскай калоніі на Прывакзальную плошчу Мінска, дзе яго сустракалі журналісты і паплечнікі.*

*На Вялікдзень, які праваслаўныя адзначалі ў нядзелю, 15 красавіка, быў вызвалены Зміцер Бандарэнка. Ён прыехаў у Мінск з магілёўскай калоніі №15 на маршрутным таксі. Прычым ехаў лежачы, таму што нядаўна ў калоніі перанёс аперацыю на назе.*



У НУМАР!

## Ліст з волі

Дарагі Іосіф Паўлавіч! Дарагія Святлана, Марына і ўсе супрацоўнікі "Народнай Волі"!

Я неаднойчы пісаў вам з-за кратаў — з турмаў і калоній. Зараз ведаю, што гэтыя лісты да вас звычайна не даходзілі. У тых лістах я дзякаваў газеце за мужнасць, за прынцыповасць, за пазіцыю. Прасіў праз газету падзякаваць усім тым людзям у Беларусі, якія падтрымлівалі мяне і іншых палітвязняў, разгарнулі сапраўдную кампанію салідарнасці з намі, патрабавалі нашага неадкладнага вызвалення і самі падвяргаліся рэпрэсіям. Ды і сама "Народная Воля" была рэпрэсавана разам са мной: час ад часу ад мяне яе хавалі, калі там выходзілі вострыя артыкулы, а час ад часу "Народнай Волі" пазбаўлялі ўсю калонію — асабліва калі ў нумары друкаваліся матэрыялы аб праблемах асуджаных — не толькі палітычных. Таму свой першы ліст з волі я пішу менавіта вам.

У калоніях "Народную Волю" заўсёды чакаюць. Яна — адно з самых аўтарытэтных выданняў для тых, хто пазбаўлены волі. Многія толькі там яе пачынаюць чытаць і дзякуючы ёй асэнсоўваюць, што ў рэальнасці адбываецца ў Беларусі.

Гэта ў "Народнай Волі" я прачытаў віншаванні з Днём народзінаў ад маёй жонкі і быў крануты амаль да слёз. Вядома ж, я не атрымаў бы гэты нумар, але іншыя асуджаныя ведалі, што ён будзе скрадзены ахоўнікамі, і таемна перадалі мне газету, якая прыйшла да іншага падпісчыка.

А нумар "Народнай Волі" за 21—23 снежня 2010 года ішоў да мяне амаль паўтара года — я атрымаў яго ўжо ў "Віцьбе". Хтосьці з зэкаў захаваў яго і зрабіў мне такі падарунак. Толькі там я змог прачытаць "Трагічны шлях да свабоды". Я ганаруся тым, што побач з маім прозвішчам у выбарчым бюлетэні было напісана: "Палітычны аглядальнік "Народнай Волі".

Я зараз не за кратамі, але там застаюцца не толькі іншыя палітвязні, але і тысячы незаконна асуджаных. Іхнія правы груба парушаюцца, яны знаходзяцца ў нечалавечых умовах, іх пазбаўляюць спатканняў, званкоў і перадач проста таму, што нейкім вертухаям хочацца здзекавацца з людзей. "Народная Воля" для гэтых людзей — крыніца не толькі інфармацыі, але і надзеі на тое, што не ўсё безнадзейна ў грамадстве, калі вольнае слова ўсё ж існуе і прарываецца за краты. Ёсць у Беларусі і мужныя людзі, і смелыя журналісты, і барацьба за свабоду і правы чалавека.

Так што дзякуй, "Народная Воля"! Да сустрэчы ў рэдакцыі!

**З любоўю і павагай —**

**Андрэй САННІКАЎ.**

ТЫМ ЧАСАМ

### «Бараду вярну»

*Усе, хто паспеў пабачыцца з Андрэем Саннікавым, заўважылі, што без барады ён вельмі змяніўся — проста не пазнаць.*

*"Не тое слова змяніўся,* — гаворыць Андрэй Алегавіч. — *Там я ў люстэрка не глядзеўся. Гэта проста не я. Я бараду насіў 35 гадоў, але ў калоніі быць з барадой не дазваляецца. Бараду вярну. І я хачу аднавіць сваё былое жыццё".*

# ...Обещаю уберечь от санкций не только ваш завод

***ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО Виктора Ивашкевича оператору ЭВМ Марине Дмитриевне Циблиенко, а также всем работникам Мозырского и Новополоцкого нефтеперерабатывающих заводов.***

Уважаемая Марина Дмитриевна!

Меня очень огорчило, что своим призывом к правительствам европейских стран с требованием запрета покупать и транспортировать белорусские нефтепродукты на их территории, пока не будут освобождены все политзаключенные, я создал "нервозную обстановку" и нанес Вам "моральный вред и нравственные страдания".

Хочу разъяснить Вам свою позицию. Дело в том, что А.Лукашенко, правящий в нашей с Вами Беларуси вот уже 18 лет, бросил за решетку моих ближайших друзей — Андрея Санникова, Дмитрия Бондаренко, Алеся Беляцкого, Николая Статкевича, Павла Северинца, Дмитрия Дашкевича и еще 10 человек. Первые двое, слава Богу, в субботу и воскресенье вышли на свободу. Остальные остаются в тюрьме только за то, что посмели критиковать политику нашего бессменного правителя.

Не знаю, что принято в Вашем кругу, но меня родители учили, что бросать своих друзей в беде (тем более когда они испытывают не мифические, а реальные физические и моральные страдания) — грешно и стыдно. И поэтому **я делал и буду делать все, чтобы мои друзья и все политзаключенные как можно быстрее оказались на свободе.** Несмотря на любые иски "героев труда" и заявления прикормленных властью профбоссов.

Но пишу я не только (и даже не столько) для того, чтобы разъяснить Вам свою позицию. Дело в том, что Ваша нервная реакция меня не только огорчила, но и, честно сказать, очень удивила. А как же тогда при столь тонкой и ранимой нервной системе Вам удалось сохранить полное душевное спокойствие в прошлом году, когда власть, возглавляемая так любимым Вами Александром Григорьевичем Лукашенко, одним махом украла у Вас и Ваших товарищей по работе большую часть сбережений и зарплат? Неужели этот грабеж средь бела дня не нанес Вам "морального вреда и нравственных страданий"?

Как Вам удавалось оставаться уравновешенной и невозмутимой, когда Вы и Ваши работники бегали по магазинам, скупая сахар, спички и подсолнечное масло? Как Вам удается сохранять железную выдержку, наблюдая ежемесячный рост цен на горячую воду и электричество, на мясо и молоко, на бензин и проезд в общественном транспорте? И почему Вы не требуете от своих профсоюзов поддержки не только в подаче исков ко мне, но и в требованиях к своим хозяевам повысить заработную плату? Ведь это не я, а власть конкретно и реально залазит в Ваш кошелек и крадет деньги у Ваших детей, на которые Вы могли бы купить им лишний апельсин или мандаринку!

Знаете ли Вы, что Литва покупает российскую нефть по цене в два раза большей, чем цена, по которой Россия продает нефть нам? Вы, наверное, думаете, что рабочие литовских нефтеперерабатывающих заводов получают в связи с этим зарплату меньше Вашей? А вот и нет! У них зарплата в два раза больше, чем у Вас! Как Вам такая арифметика? Вы спросите: "В чем же тут хитрость?" А хитрости никакой и нет.

Просто в Литве граждане действительно избирают своего президента и своих депутатов, а также выгоняют их с работы, когда те не хотят учитывать мнение простых людей. Именно поэтому литовский президент во время кризиса сокращает в первую очередь зарплаты министрам и чиновникам, а не простым рабочим. Кроме того, в Литве есть независимые профсоюзы, которые не пишут заявления с осуждением оппозиции, а реально воюют с работодателями за повышение зарплаты своим членам. А вот в Беларуси таким, как Вы, зарплату дают только такую, какую Вы согласны терпеть, и не больше того.

Мне бы очень хотелось узнать Ваше мнение о том, куда и на что идут миллиардные кредиты, российские дотации и доходы от торговли с Европой, миллиарды долларов от распродажи наших предприятий росийским олигархам и арабскому бизнесу. А может, Вы знаете, что мы, белорусы, будем иметь от прихода китайцев в нашу страну? Скажите, пожалуйста, а от продажи "Белтрансгаза" и снижения российской цены на газ и нефть для Беларуси Ваша зарплата увеличилась? Не заметили, после этого цены пошли вниз?

Под конец своего коротенького письма хочу сообщить Вам две новости — как говорят, одну хорошую и одну плохую.

Начну с плохой. Сколько бы Вы и такие, как Вы, ни подавали на меня исков в суд, **если в ближайшее время власти не выпустят на волю всех политзаключенных, если не будут сделаны другие шаги в плане либерализации политики, экономики, прав человека, жестких и масштабных санкций со стороны США и Европейского Союза Вам и другим не миновать.**

Но есть и хорошая новость. Если Вы вместе со всем трудовым коллективом вашего завода публично примете обращение к А.Лукашенко с требованием пойти на решение вышеуказанных вопросов, я, со своей стороны, беру на себя обещание сделать все для того, чтобы уберечь ваш завод от любых санкций.

Кстати, последнее предложение относится и к Новополоцкому НПЗ, и ко всем другим предприятиям Беларуси.

На этом прощаюсь с Вами, до скорой встречи!

Всегда готовый Вам помочь, в прошлом редактор газеты "Рабочы", а ныне политик —

**Виктор ИВАШКЕВИЧ.**

*Минск.*

ОТ РЕДАКЦИИ

*Напомним, что оператор ЭВМ Мозырского НПЗ Марина Циблиенко подала в суд на Виктора Ивашкевича, так как посчитала, что его призывы к Европе ввести экономические санкции против некоторых белорусских предприятий, если не будут освобождены белорусские политзаключенные, а также не будут сделаны другие шаги в плане либерализации политики, экономики, прав человека, нанесли ей моральный вред и душевные страдания.*

РЭЗАНАНС

## Еўрасаюз заклікае Беларусь вызваліць усіх палітвязняў

*"Я вітаю навіну аб тым, што былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і арганізатар яго кампаніі Зміцер Бандарэнка цяпер вольныя і могуць уз'яднацца са сваімі сем'ямі і сябрамі",* — гаворыцца ў заяве Вярхоўнага прадстаўніка ЕС па пытаннях замежнай палітыкі і палітыкі бяспекі, віцэ-прэзідэнта Еўрапейскай камісіі **Кэтрын Эштан**.

*"Я заклікаю ўлады Беларусі безумоўна вызваліць зараз усіх іншых палітычных зняволеных і зняць усе абмежаванні на ажыццяўленне грамадзянскіх і палітычных правоў. Гэта, несумненна, будзе спрыяць магчымасці прасоўвацца наперад у напрамку паляпшэння адносін паміж ЕС і Беларуссю",* — заявіла Вярхоўны прадстаўнік ЕС.

У сваю чаргу еўрапейскі камісар па пытаннях пашырэння і Еўрапейскай палітыкі суседства **Штэфан Фюле** называе вызваленне Саннікава і Бандарэнкі *"першым фундаментальным крокам, якога, натуральна, можна было чакаць у сітуацыі, калі кіраўнік дзяржавы абяцаў прабачыць тым, хто пра гэта прасіў".*

*"Таксама асабіста я думаю, што гэта супраць прынцыпаў сучаснай Еўропы і супраць чалавечай годнасці — прымушаць людзей прызнацца ў тым, чаго яны ніколі не рабілі, калі іх адзінае „злачынства" было ў выказванні іх думкі.*

*ЕС неаднаразова падкрэсліваў, што ўсе палітычныя зняволеныя павінны быць вызвалены і рэабілітаваны, толькі тады мы можам разглядаць нармалізацыю адносін з Мінскам",* — заявіў Штэфан Фюле.

### Марцін ШУЛЬЦ: «Мы не можам сабе дазволіць надалей марнаваць час»

Спікер Еўрапарламента **Марцін Шульц** адрэагаваў на вызваленне двух палітвязняў у Беларусі наступнай заявай.

"Я вітаю вызваленне былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і палітычнага актывіста Дзмітрыя Бандарэнкі. Гэта — добрая навіна, але яна запазнілася на 16 месяцаў. Гэтыя змагары за свабоду наогул не павінны былі быць зняволены.

Я заклікаю беларускія ўлады вызваліць усіх астатніх палітвязняў, уключаючы другога кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча і кіраўніка праваабарончага цэнтра "Вясна" Алеся Бяляцкага.

Сумна ўсведамляць, што ў Еўропе XXI стагоддзя дагэтуль існуюць палітзняволеныя. Як неаднаразова заяўляў Еўрапарламент, безумоўнае вызваленне і поўная рэабілітацыя ўсіх вязняў сумлення — неабходная ўмова для аднаўлення дыялогу з беларускімі ўладамі.

Я заклікаю прэзідэнта Лукашэнку перастаць пазбаўляць беларускі народ яго асноўных свабод. Узаемадзеянне з Еўрасаюзам дало б вялізныя выгады беларускаму грамадству. Мы не можам сабе дазволіць надалей марнаваць час. Мінск павінен скарыстаць магчымасць прыступіць да даўно чаканых перамен".

### Мінск разлічвае на разуменне

У Мінску разлічваюць на разуменне Еўрасаюзам неабходнасці выбудоўвання канструктыўнага дыялогу за сталом перамоў.

*"Мы хацелі б спадзявацца, што гэтыя заявы адлюстроўваюць разуменне, што зараджаецца рэальны кампраміс і дыялог магчымы толькі за сталом перамоў у спакойнай, паважлівай і канструктыўнай абстаноўцы",* — заявіў агенцтву "Інтэрфакс-Захад" у панядзелак начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар МЗС Беларусі **Андрэй Савіных.**

Так ён пракаментаваў заявы Вярхоўнага прадстаўніка Еўрасаюза Кэтрын Эштан і шэрагу міністраў замежных спраў краін ЕС пасля вызвалення экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і каардынатара ініцыятывы "Еўрапейская Беларусь" Дзмітрыя Бандарэнкі.

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА



## Грязные игры

Президент Грузии Михаил Саакашвили в честь Пасхи помиловал 200 заключенных. Накануне великого дня, в субботу утром, пресс-служба грузинского лидера сообщила, что помилованные к вечеру будут дома и смогут встретить светлый христианский праздник в кругу семьи. Новость передали все информагентства. Потому что это достойно, это по-христиански — в честь главного праздника прощать своих оппонентов и даже врагов.

Огромное количество людей ждало аналогичных новостей и у нас, в Беларуси. Однако пресс-служба Александра Лукашенко молчала. И только в субботу вечером с таксофона витебского вокзала Андрей Санников смог позвонить домой: "Меня выпустили". Из бумаг, которые ему дали на подпись, Санников сумел понять только то, что его освобождают на основании указа о помиловании осужденных. "Осужденных"! Множественное число. Но в субботу освободили его одного.

На следующий день, в воскресенье, освободили Дмитрия Бондаренко. Оказывается, в Могилев новость о помиловании Бондаренко пришла с опозданием. Видимо, некому было в колонии в субботу снять телефонную трубку или принять факс...

На каких условиях освобождены Санников и Бондаренко? Что конкретно написано в указе о помиловании? Ответа на эти вопросы до сих пор никто не знает. А пресс-служба президента попрежнему молчит. Молчит официальное информационное агентство БЕЛТА. Молчат государственные телеканалы. Суббота, воскресенье, понедельник... Молчат. Будто стыдятся, что Александр Лукашенко принял единственно правильное в этой ситуации решение — освободить из мест заключения людей, которые никого не убили, не ограбили, не изнасиловали.

Во всем мире пресс-службы стараются скрыть, если лидер проявил мстительность, злопамятность, несправедливость. А у нас, наоборот, не знают, как сказать о достойном решении, о решении, которое миллионы людей считают единственно верным, за которое в светлый праздник Пасхи возблагодарили — "Слава тебе, Господи, что вразумил...".

Но после первой радости вновь появились вопросы. Почему освобождены только двое, почему не все? Что мешало подписать указ с фамилиями всех политзаключенных и одним росчерком пера снять проблему, которая отравила наши отношения с Европой, с Западом, со всем цивилизованным миром?

Не исключаю, какие-то дураки-советники доводят до Лукашенко мнение, что нецелесообразно освобождать всех. Кто-то гундосит: "Да, Европа требует, но вы не должны поддаваться..." Да правитель и сам, видимо, считает, что не должен демонстрировать свою слабость. В церковь время от времени ходит, на иконы лоб крестит, с высшими церковными иерархами встречается. Но вот ни один духовник ему не смог объяснить, что прощать и миловать — это как раз по-божески, это признак силы, это знак уверенности в себе. А вот устраивать торг живыми людьми, устраивать спектакли "пусть они сначала покаются", наоборот, омерзительная низость.

Кто должен каяться? Может, остающийся в гродненской тюрьме Николай Автухович? Человеку, прошедшему афганское пекло, разрушили все, что он после демобилизации создавал своим собственным трудом; забрали бизнес, оставив только долги, вымотали душу и нервы, а потом еще и обвинили в тягчайшем злодеянии — подготовке террористического акта против высших должностных лиц. Что за это время пережил сам Николай, что пережила его семья, его престарелые родители? Как им было в маленьком городе объяснить людям, что их сын, муж, отец не террорист, что он никого не убивал и не собирался? Как им было жить, словно прокаженным, когда все соседи боялись слово сказать, здоровались одними глазами, чтобы никакой стукач не мог ничего заподозрить?..

Это потом, на суде, с Автуховича сняли все эти страшные обвинения. А чтобы хоть как-то оправдать долгие месяцы ареста, кампанию шельмования в СМИ, кампанию тотальных обысков, задержаний, допросов всех, кто хоть как-то был связан с Николаем, определили ему приговор за другую провинность. И за пять патронов, которые во время обыска были найдены в его доме, дали пять лет лишения свободы.

Покаялись ли перед матерью Николая Автуховича следователи, которые фальсифицировали дело против ее сына, обвиняя в терроризме и подготовке покушения на тогдашнего председателя Гродненского облисполкома? Покаялись ли они перед дочерью Николая, которая тогда была школьницей и не знала, как ей ходить в школу, как ей жить? Покаялись ли они перед Николаем? Чувствуют ли они вину за его сломанное здоровье, за украденные у него годы? За его голодовки, за его порезанные вены?..

Почему Автухович должен писать прошение о помиловании на имя Александра Лукашенко и признавать свою мифическую вину? В чем? Ведь это государство должно просить прощения за тот ад, в который превратило жизнь этого человека и его близких.

Почему должен писать прошение Сергей Коваленко, проступок которого только в том, что вывесил на новогодней елке исторический бело-красно-белый флаг? Флаг, под которым Александр Лукашенко принимал президентскую присягу.

Может, анархисты сильно провинились перед обществом, когда во время масштабных военных учений вышли к Министерству обороны с лозунгом "Народ голодает — армия играет". Кто в народе не поддерживает этот лозунг? Тогда за что судили парней, за что им дали сроки, сопоставимые с наказанием за тягчайшие преступления?

Каждая фамилия в списке политзаключенных — это своя трагическая история, своя поломанная судьба, своя история противостояния человека и системы, принципов и беспринципности. И это противостояние, к большому нашему несчастью, продолжается. Даже в том, как происходило освобождение Санникова и Бондаренко, даже в странном трехдневном молчании президентской пресс-службы есть свои знаки и свои символы. Произошедшее — это не политическая оттепель. Пока это всего лишь игры в милость и помилование, в наказание и справедливость. Грязные игры, которые обязательно надо остановить.

### Марына АДАМОВІЧ: «Яны пастараюцца не выпусціць Міколу пераможцам»

Жонка нязломнага Мікалая Статкевіча **Марына Адамовіч** вітае добрыя навіны аб вызваленні палітвязняў са слязамі.

*"Добрых навін я не ведаю, —* уздыхае спадарыня Адамовіч. — *Адзінае, што Мікола сказаў, калі тэлефанаваў у пятніцу, што ён пазіцыі не мяняў і, што б ні адбылося, просіць сяброў, міжнародную супольнасць, аднадумцаў не мяняць сваю. Сёння я атрымала пэўнае разуменне, чаму ён так казаў...*

*Ён, як заўжды, быў вельмі бадзёрым, спакойным і вясёлым, але, відавочна, меў на ўвазе, што вакол яго адбываюцца нейкія незразумелыя гульні. У любым выпадку, гэта не выпадкова — гэта новае суседства...*

*Што ў гэтых няправільных пчол у галовах, я не ведаю. Як будуць развівацца падзеі далей? Безумоўна, яны пастараюцца не выпусціць Міколу пераможцам..."*

ПОДСЧИТАЛИ...



# 185 лет
## надо копить белорусу на элитную квартиру

Для того чтобы приобрести элитную квартиру в Минске, среднему белорусу надо копить на 40 лет дольше, чем среднему россиянину для покупки элитного жилья в Москве. Но на 120 лет меньше, чем жителю Индии, желающему приобрести супержилье в Мумбаи.

Среднему индусу необходимо работать 308 лет, чтобы заплатить за роскошную квартиру площадью 100 кв. м в Мумбаи. Как сообщает агентство Bloomberg, в этом городе тяжелее всего купить элитное жилье простому человеку. Такая квартира стоит около 1,14 миллиона долларов, что при индийской средней зарплате в 308 долларов в месяц в 308 раз превышает средний годовой доход.

На втором месте в рейтинге стоит китайский Шанхай — среднему китайцу надо 233 годовые зарплаты, чтобы приобрести элитную недвижимость в этом мегаполисе. Москва поднялась на третье место — на покупку VIP-квартиры в российской столице получающий среднюю зарплату россиянин должен откладывать всю заработную плату на протяжении 144 лет. Кстати, для того, чтобы приобрести аналогичное жилье в Сингапуре, местный житель должен потратить 43 годовых заработка. Среднему американцу для покупки роскошных апартаментов в Нью-Йорке придется вкалывать 48 лет.

Корреспондент портала interfax.by решил подсчитать, сколько надо работать для покупки элитной квартиры в Минске среднестатистическому белорусу. По данным Белстата, номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Республики Беларусь в январе-феврале 2012 г. составила 2 миллиона 921,3 тысячи рублей. По курсу Нацбанка это 360 долларов в месяц, или же 4320 в год.

Теперь сравним с ценами на недвижимость и посчитаем годовые зарплаты.

94 года — для покупки "двушки" в элитном доме "У Троицкого". Согласно официальным данным на сайте проекта, двухкомнатная квартира на втором этаже общей площадью 135,7 кв. метра (жилая площадь — 102,5 кв. метра) обойдется покупателю в 407 тысяч долларов. То есть цена квадратного метра в этом элитном доме — 3 тысячи долларов. Получается, что для того, чтобы заработать на эту квартиру, надо получать среднюю белорусскую зарплату на протяжении 94 лет!

Но строится еще более дорогое жилье!

185 лет нужно рядовому белорусу для приобретения 2-комнатной квартиры в доме по улице Гало, 8. За квартиру общей площадью 117,4 кв. метра (жилая — 72,4 кв. метра) продавец просит 800 тысяч долларов. Цена квадратного метра составляет 6814 долларов — что равняется полуторагодовой зарплате среднего белоруса.

220 лет — для приобретения 4-комнатной квартиры, выставленной на продажу в доме по адресу пр.Независимости, 12. Жилье, расположенное в "сталинке" 1958 года постройки, имеет общую площадь 142,7 кв. метра (жилая — 85 кв. метров). И хотят за него 950 тысяч, или 6657 долларов за квадратный метр. А это означает 220 среднебелорусских годовых зарплат. Почти как в Шанхае...

13

## Яны пакуль за кратамі

**Мікалай Статкевіч,** экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта пакараны зняволеннем на 6 гадоў. Знаходзіцца ў крытай турме Магілёўскай калоніі. Пісаць прашэнне аб памілаванні адмовіўся.

**Мікалай Аўтуховіч** пад вартай з лютага 2009 года. Пакараны зняволеннем на 5 гадоў і 2 месяцы за "незаконныя дзеянні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, боеприпасаў і выбуховых рэчываў". Знаходзіцца ў крытай турме ў Гродне.

**Павел Севярынец** за Плошчу пакараны абмежаваннем волі на 3 гады. Знаходзіцца на "хіміі" ў ПУ-АТ-7, што ў вёсцы Куплін. Пісаць прашэнне адмовіўся.

**Зміцер Дашкевіч** узяты пад варту за дзень да Плошчы, 18 снежня 2010 года, пакараны зняволеннем на 2 гады па абвінавачванні ў злосным хуліганстве. Адбывае пакаранне ў калоніі агульнага рэжыму ў Глыбокім. Пісаць прашэнне адмовіўся.

**Эдуард Лобаў** быў затрыманы разам са Зміцерам Дашкевічам. Пакараны зняволеннем на 4 гады строгага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі ў Івацэвічах. Пісаць прашэнне адмовіўся.

**Сяргей Каваленка** пад вартай ад 22 снежня 2011 г. па новай крымінальнай справе за парушэнне ўмоў адбыцця пакарання, калі адбываў ад 14 мая 2010 года 3 гады абмежавання волі за вывешванне гістарычнага нацыянальнага сцяга на навагодняй ёлцы ў Віцебску. Пакараны зняволеннем на 2 гады і 1 месяц. У выніку галадоўкі пратэсту страціў здароўе. Знаходзіцца ў псіхіятрычным шпіталі ў Навінках.

**Алесь Бяляцкі,** праваабаронца — пакараны зняволеннем на 4 з паловай гады як быццам за парушэнне падатковага заканадаўства. Знаходзіцца ў Бабруйскай калоніі.

**Мікалай Дзядок** арыштаваны ў верасні 2010 года. Пакараны пазбаўленнем волі на 4,5 года па абвінавачванні ў злосным хуліганстве. Утрымліваецца ў Магілёўскай папраўчай калоніі.

**Ігар Аліневіч** арыштаваны напрыканцы лістапада 2010 года. Абвінавачаны ў злосным хуліганстве і пашкоджанні маёмасці агульнанебяспечным спосабам у асабліва буйным памеры. Зняволены на 8 гадоў. Пакаранне адбывае ў Наваполацкай калоніі.

**Аляксандр Францкевіч** арыштаваны ў верасні 2010 года. Пакараны зняволеннем на 3 гады за наўмыснае знішчэнне камп'ютарнай інфармацыі і злоснае хуліганства. Знаходзіцца ў папраўчай калоніі ў Івацэвічах.

**Яўген Васьковіч** узяты пад варту ў студзені 2011 года. Пакараны на 7 гадоў пазбаўлення волі за злоснае хуліганства і пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры. Умовы пакарання змянілі на больш жорсткія. Знаходзіцца ў турме ў Магілёве.

**Павел Сырамолатаў** адбывае 7 гадоў зняволення ў Магілёўскай папраўчай калоніі па аналагічным абвінавачванні.

**Арцём Пракапенка** пакараны зняволеннем на 7 гадоў за злоснае хуліганства і пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры. Пакаранне адбывае ў турме ў Шклове.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Павел СЕВЯРЫНЕЦ: «Рэчы пакуль што не збіраю...»

Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Павел Севярынец, які пасля падзей 19 снежня быў асуджаны на тры гады "хіміі", у размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" сказаў, што ніякіх перадумоў свайго хуткага вызвалення не адчувае.

— Ніякай канкрэтыкі пакуль няма, — гаворыць Павел. — Усё ідзе на ўзроўні нейкіх намёкаў. Маўляў, Саннікава і Бандарэнку выпусцілі пасля таго, як яны напісалі прашэнне аб памілаванні, можа, і вы напішаце? Аднак мая пазіцыя застаецца нязменнай: ніякага прашэння я пісаць не збіраюся. Нягледзячы на тое што 19 красавіка наступае тэрмін для майго ўмоўна-датэрміновага вызвалення, рэчы пакуль не збіраю. Да таго ж іншым вязням — Міколу Статкевічу, Сяргею Каваленку, Алесю Бяляцкаму і іншым — зараз куды горш, чым мне.

Выхад на волю Саннікава і Бандарэнкі — гэта, безумоўна, добры знак. Знак на добрае будучае для Беларусі. На маю думку, у Лукашэнкі не было іншага выйсця. Гэты крок прадыктаваны тым, што, па-першае, дзейнічаюць санкцыі, па-другое, немалаважную ролю адыгрывае міжнародная згуртаванасць і салідарнасць унутры краіны. Палітыкі апынуліся на свабодзе на Вялікдзень — гэта сімвал таго, што Беларусь рана ці позна таксама ўваскрэсне.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

БЛІЦ

*Першыя палітычныя зняволеныя, вызваленя якіх дэмакратычная грамадскасць актыўна дамагалася апошнія месяцы, на свабодзе. Ёсць надзея, што ў рэшце рэшт з турмаў і калоній будуць вызвалены ўсе тыя, каго цывілізаваны свет лічыць беларускімі вязнямі сумлення. А гэта значыць, што напярэдадні парламенцкіх выбараў можа скласціся прынцыпова іншая сітуацыя, чым зараз. У сувязі з гэтым "Народная Воля" вырашыла звярнуцца да палітычных лідараў з пытаннем:*

## «Ці паўплывае вызваленне палітвязняў на ўдзел вашай арганізацыі ў выбарах?»

**Сяргей КАЛЯКІН,
старшыня партыі "Справядлівы свет":**

— Наша пазіцыя застаецца нязменнай — мы будзем удзельнічаць у выбарах. Хаця мы ведаем, што ніякіх выбараў у Беларусі няма. Але мы гэтую палітычную кампанію планавалі выкарыстаць як інфармацыйную, як кампанію працы з народам, у тым ліку накіраваную на вызваленне нашых калег па дэмакратычным лагеры з турмаў. Вызваленне ўсіх палітвязняў, калі яно адбудзецца, — канешне, гэта важны фактар палітычнага жыцця. Але ад гэтага не залежыць, будуць выбары справядлівымі ці не. Павінны быць іншыя абставіны, не звязаныя з гэтым.

**Дзмітрый УСС,
экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта,
сустаршыня аргкамітэта па стварэнні Сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада":**

— Мы не будзем удзельнічаць. Палітвязняў вызвалілі, але яшчэ іх усіх трэба рэабілітаваць, каб яны таксама мелі права прымаць удзел у выбарах. Акрамя таго, галоўная ўмова — гэта змяненне выбарчага заканадаўства. Навошта гуляць з шулерамі? Навошта выглядаць дурнямі? Калі сёння працуе так званае тэлефоннае права, калі сёння выбарчая сістэма цалкам кантралюецца рэжымам, то ўдзельнічаць у гэтых выбарах — значыць сваімі рукамі легалізоўваць тое становішча, якое ёсць.

**Сяргей ВАЗНЯК,
адзін з кіраўнікоў незарэгістраванай кампаніі "Гавары праўду!":**

— Мы будзем вылучаць сваіх кандыдатаў, праводзіць агітацыю. Плануем у выпадку, калі не вызваляць усіх палітвязняў, то перад галасаваннем здымем кандыдатуры. Але калі ўсе палітвязні будуць на волі, то будзем удзельнічаць.

**Дзяніс САДОЎСКІ,
сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя":**

— Вызваленне ўсіх — гэта перадумова для перагляду нашага рашэння. Але гэта не адзіная ўмова. Трэба яшчэ, каб нашы сябры былі ўключаны ў акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі. Без выканання гэтых дзвюх умоў мы будзем настойваць на байкоце выбараў.

**Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ,
сябра Палітсавета
Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

— Вызваленне палітвязняў было адным з галоўных нашых патрабаванняў. Але выбары тут ні пры чым. Для ўдзелу ў выбарах гэтага будзе недастаткова. Трэба яшчэ ўнесці змены ў выбарчае заканадаўства.

**Любоў ЛУНЁВА.**

АЛЬТЭРНАТЫВА

# Беларуская вёска еўрапейскага ўзору

## *12 гадоў таму, калі Эдуард Вайцяховіч з вёскі Камарова прапанаваў мядзельскай вертыкалі скарыстоўваць энергію ветру, яго ледзь не вытурылі за дзверы райвыканкама...*

Нафты і газу хопіць надоўга, значыцца, і галаву тлуміць не варта, —адрэзалі вясковаму прадпрымальніку. Толькі Эдуард не з той пароды людзей, якія пры начальстве долу хіляцца: можа, характар такі, можа, наглядзеўся, як за бугром людзі жывуць... Карацей, "вертыкальны аблом" не спалохаў — адно падахвоціў дзейнічаць. І не толькі па лініі альтэрнатыўных крыніц энергіі, але ўвогуле па ўладкаванні вясковага жыцця — на еўрапейскі лад, так бы мовіць.





Цяпер, канечне, ніхто не згадвае той першы выверт раённага начальства, бо ўсё ж два электраветракі, пастаўленыя з дапамогай нямецкіх дабрачыннікаў паблізу Занарачы, забяспечваюць 4% электраэнергіі ўсяго Мядзельскага раёна... А казалі, што ў Беларусі няма магчымасці і ўмоў для развіцця ветраэнергетыкі. Вайцяховіч з самага пачатку быў упэўнены: за ўзнаўляльнымі крыніцамі энергіі — будучыня. І таму супрацоўнічаў і супрацоўнічае з нямецкімі сябрамі да гэтага часу. Сёння абодва ветракі — на 250 і 600 кілават — выпрацоўваюць 1.400.000 кілават электрычнасці ў год. Толькі адзін з іх — на 250 кілават — цалкам задавальняе патрэбы ў электрычнасці 150 вясковых хат. Астатняя электраэнергія паступае ў агульныя электрасеткі — за грошы, вядома, якія асядаюць у мясцовым бюджэце і скарыстоўваюцца для развіцця інфраструктуры. "Мы плануем, — кажа Эдуард, — усталяваць яшчэ 10 ветракоў у Камарове. І гэта ўжо не проста латанне энергетычных дзірак, а сапраўдны бізнес. Для нас і для немцаў. Яны будуць заключаць дамовы з канцэрнам "Белэнерга", прадаваць электраэнергію па цяперашніх тарыфах, мець з таго прыбытак. Адпаведна будзе напаўняцца і наш бюджэт".

**— Навошта паспяховаму вясковаму прадпрымальніку Эдуарду Вайцяховічу лішні клопат?** — пытаюся ў свайго субяседніка. **— Быць кансультантам Цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва ў Камарове, прабіваць і ажыццяўляць праекты для ўсяго паселішча, дапамагаць моладзі? Хапіла б і адной пякарні...**

— Хачу, каб наша Камарова і вяскоўцы жылі па-сучаснаму, — прызнаецца Эдуард, — каб не горш, як у Еўропе... І каб дзеці нашы, унукі не ўцякалі ў горад, а жылі тут стала, развівалі бізнес, прадпрымальніцтва па ўсіх напрамках. А ўсё пачынаецца з энергіі — людской найперш... Пад ляжачы камень вада, як вядома, не цячэ, то варта было варушыцца, а не чакаць манны нябеснай. Раней некаторыя мне жаліліся: у вёсцы не хапае грошай на паліва і запчасткі, не тое што на нейкія там праекты. Але былі і такія, што падзялялі мае перакананні. Карацей, вочы баяцца, а рукі цягнуцца да справы... Гэтак і мы. Пасадзілі кветкі, пачысцілі сажалку, прывялі ў парадак стары парк... Галоўнае, разумееце, пачаць. Ідэя рэстаўрацыі будынкаў XIX ст., якія належалі былому гаспадару маёнтка графу Камарову, роўна як і ажыўленне старога парку, захапілі ўсіх камароўцаў. Работа прынесла плён: нашы памкненні былі ўзнагароджаны замежным грантам на 500 долараў, затым на 3 тыс. долараў, а пасля ўжо і самі пачалі зарабляць грошы ад продажу насення кветак ды іншага... Канечне, фінансавых сродкаў ніколі нікому не хапае... Але грошы атрымліваюць тыя, хто можа і хоча іх атрымаць. Мы задумаліся, як забяспечыць людзей працай. Вядома, сельская гаспадарка рэдка дзе ў свеце з'яўляецца прыярытэтнай галіной эканомікі, і мы вырашылі развіваць іншыя кірункі. Так нарадзілася ідэя стварэння цэнтра сельскага прадпрымальніцтва, які дапамагае цяпер людзям развіваць свой малы бізнес. Пасля наш праект перамог сярод васьмі аналагічных праектаў, якія разглядала прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Праўда, замест абяцаных 50.000 долараў камароўцы атрымалі толькі 11.000, але гэтага хапіла, каб стварыць наш цэнтр.



**— Цяперашняе Камарова не падобнае на іншыя вёскі. Нават звыклых платоў не відаць... Такія паселішчы больш характэрны для нямецкай глыбінкі. Мусіць жа, не выпадкова?..**

— Так, замест шэрых платоў у нас жывая агароджа з падстрыжанай алычы. І ўвогуле зараз мы імкнёмся развіваць экалагічна чыстую сельскую гаспадарку, нармальную эканоміку, бізнес і нават адукацыю. Чаму? А дзеля ўстойлівага развіцця паселішча, дзеля перспектывы — гэта стратэгія Камарова. Мы пачыналі добраўпарадкаванне не таму, што хацелі выпендрыцца перад іншымі, а каб палепшыць уласнае жыццё. Як пачалі будаваць сваю міні-ГЭС, то некаторыя разумнікі папракалі: маўляў, навошта табе, Вайцяховіч, гэтыя лічаныя кілаваты? Але ж паглядзіце: наша ГЭС хай сабе і працуе шэсць гадзін у суткі — не хапае вады, але ж дае тры кілаваты электраэнергіі. І гэтай колькасці хапае, каб забяспечыць электрычнасцю асвятленне ў парку. Некаторыя могуць сказаць, што дробязі, а я так не думаю. Справа ў тым, што вялікае пачынаецца з малога. Тут нам варта павучыцца ў нямецкіх сяброў — яны таму і прасунуліся далей усіх у Еўропе, што лічаць кожную капейку і ўкараняюць паўсюль новыя тэхналогіі. Каб атрымаць мільён, трэба спачатку зарабіць капейку...

**— Цікава, у колькі грошыкаў абышлася вам міні-ГЭС?**

— На сённяшні дзень такую міні-ГЭС, як наша, — на 3,5 кВт — можна зладзіць і ўстанавіць за 8 мільёнаў беларускіх рублёў. Гэтага дастаткова, каб асвятліць цэнтр вёскі 40 ліхтарамі. Канечне, мы выкарыстоўваем толькі энергазберагальныя лямпачкі: 12 ват замест 100, плюс спецыяльнае ацяпленне будынкаў. Ведаеце, на Свіры шмат дзе можна збудаваць невялічкія гідраэлектрастанцыі, трэба толькі паварушыцца — выгада ж немалая... А пра ўсю Міншчыну — не кажучы пра Беларусь — і казаць не варта... У нас тысячы рэк, вадаёмаў з дамбамі і ўсяго астатняга процьма. То чым мы горшыя за еўрапейцаў, якія скрозь карыстаюцца альтэрнатыўнымі, узнаўляльнымі крыніцамі энергіі?!.

**— А як з цеплавой энергіяй? Якое паліва скарыстоўваюць у Камарове?**

— О, гэта асобная песня... Справа ў тым, што і тут мы прасунуліся —дзякуючы нямецкім сябрам — далей іншых. На той час, калі ў Беларусі пра альтэрнатыўныя мясцовыя віды паліва толькі заводзілі гаворку, мы ўжо мелі кацёл на дровах з каэфіцыентам карыснага дзеяння... 96 працэнтаў. Яго нам проста падарылі... Цяпер вясковая кацельня не толькі забяспечвае цяплом усё Камарова, а гэта амаль тысяча жыхароў, але і падыходзіць пад усе стандарты экалагічных праграм.

Ці вось яшчэ... Офіс нашага Цэнтра знаходзіцца ў намі ж адрэстаўраваным будынку... свінарніка. А на ягоным даху мы ўстанавілі сонечныя батарэі. І гэта яшчэ адна крыніца энергіі, прычым аднаўляльная, ды яшчэ дае прыбытак... Электраэнергію ад сонечных батарэй мы прадаём дзяржаве па 400 рублёў за 1 кілават, а за той жа кілават звычайнай энергіі выплачваем дзяржаве 200 рублёў. Выгада і тут, як бачыце, цалкам законная. Такім чынам, электраэнергія ад сонечных батарэй не толькі пакрывае патрэбы цэлай вёскі, але і прыносіць адчувальны фінансавы прыбытак. Да ўсяго на сонечнай энергіі ў Камарове працуе і свая пякарня, якая забяспечвае свежым хлебам усіх жыхароў. Пякарню назвалі "Hullhorst" у гонар нямецкага горада, жыхары якога і забяспечылі камароўцаў усім неабходным абсталяваннем для выпечкі духмяных батонаў, булак ды розных іншых прысмакаў.

Усё, чым можа сёння ганарыцца вёска Камарова, — тварэнне рук яе месцічаў, звычайных вяскоўцаў, якія аднойчы паверылі ў сябе і ў энергію ветра, сонца і вады...

**Георгій ЧЫГІР.
Фота аўтара.**

СІТУАЦЫЯ

# Хто скраў пашпарт Алега Волчака?

*Кіраўнік праваабарончага цэнтра "Праваая дапамога насельніцтву", які зарэгістраваны ў Кіеве, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні грамадскага аб'яднання ветэранаў вайны ў Афганістане "Абаронцы Айчыны" **Алег ВОЛЧАК** атрымаў новы пашпарт, але не можа выехаць за мяжу.*

Нагадаем, што 27 студзеня ў цэнтры Мінска міліцыя затрымала Алега Волчака быццам бы для высвятлення асобы. Пазней яго абвінавацілі ў тым, што ён, маўляў, брыдкасловіў на вуліцы. Суд прызнаў Волчака вінаватым і асудзіў на 4 сутак адміністрацыйнага арышту. Калі ж Алег выйшаў на свабоду, то адразу высветліў, што з яго кватэры знік пашпарт. Пасля гэтага праваабаронца падаў у Следчы камітэт заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы па факце крадзяжу пашпарта.

— 9 лютага я атрымаў адказ са Следчага камітэта за подпісам начальніка ўпраўлення арганізацыі расследавання злачынстваў і каардынацыі аператыўна-службовай дзейнасці **Бялкоўскага,** — распавядае **Алег ВОЛЧАК**. — Паведамлялася, што мае матэрыялы накіраваны ў ГУУС Мінгарвыканкама. Адтуль іх перанакіравалі на разбіральніцтва ў Цэнтральны РУУС Мінска — да старшага ўчастковага **Андрэя Саладуна**. Як аказалася, гэта той самы чалавек, які этапіраваў мяне на суд, пагражаў мне... Тады, дарэчы, ён быў без формы. Я лічу, што Следчы камітэт паступіў няправільна, ён сам мог бы вывучыць пытанне, бо мае на гэта ўсе паўнамоцтвы. Да таго ж Саладун знаходзіцца ў прамой залежнасці ад абставін. Ён быў і сведкам па справе, і нават працуе ў адным кабінеце з **Андрэем Лявошкам.** Апошні затрымліваў мяне разам з намеснікам начальніка Цэнтральнага РУУС **Артурам Шахлаем**. Таму ў гэтым выпадку Саладун павінен быў адмовіцца ад разбіральніцтва маёй справы, але гэтага не зрабіў.

Па словах Волчака, праверка па справе павінна была скончыцца яшчэ 8 сакавіка, аднак яе працягнулі да двух месяцаў.

*— Па вялікім рахунку, за 10 дзён павінны былі вырашыць, ці ўзбуджаць крымінальную справу,* — працягвае праваабаронца. *— А тут — два месяцы! Таму я і звярнуўся да пракурора Цэнтральнага раёна Мінска, каб той забраў матэрыялы для праверкі і вырашыў іх далейшы лёс. І амаль адразу атрымаў адказ ад намесніка пракурора Цэнтральнага раёна **Шабана**, у якім той паведамляе, што мой зварот накіраваны начальніку Цэнтральнага РУУС для прыняцця рашэння па скарзе. Я скарджуся на Цэнтральны РУУС і яго супрацоўнікаў, але менавіта туды на разгляд накіроўваюць мае скаргі. Поўны абсурд! Таму я, натуральна, гэтыя дзеянні буду і далей абскарджваць пракурору Цэнтральнага раёна. Апошні адказ я атрымаў ад часова выконваючага абавязкі Цэнтральнага РУУС **Малышкі,** які паведаміў, што тэрмін праверкі па маім звароце па факце знікнення пашпарта падоўжаны да двух месяцаў. Пасля гэтага я вырашыў абскарджваць рашэнне Шабана, паколькі ён па сутнасці не разглядзеў мой зварот у адпаведнасці з Законам аб звароце грамадзян і юрыдчыных асоб. Ён павінен быў запатрабаваць вынікі праверкі, праверыць мае довады аб тым, што разгляд маёй справы вядзецца з парушэннем дзеючага заканадаўства. Абскарджваюцца дзеянні супрацоўнікаў міліцыі, а таму я прасіў пракурора ўзяць справу пад асабісты кантроль. Гэта не было зроблена. 10 красавіка я накіраваў скаргу пракурору Мінска і на дзеянні выконваючага абавязкі начальніка Цэнтральнага РУУС Малышкі, і на дзеянні намесніка пракурора Цэнтральнага раён Шабана.*

Дарэчы, Алегу Волчаку выдалі новы пашпарт, але амаль адначасова ён даведаўся, што часова абмежаваны ў праве на выезд за мяжу. *"Тым не менш я па-ранейшаму буду дамагацца, каб завялі справу па факце знікнення пашпарта,* — дадае праваабаронца. — *Нехта ж яго скраў. Ім жа можа скарыстацца любы чалавек. У самых розных мэтах. Можа, нехта захоча па маім пашпарце незаконна перасекчы мяжу, узяць крэдыт, выкарыстаць дакумент падчас здзяйснення правапарушэння. А тое, што справа пакуль не можа зрушыцца з мёртвай кропкі, яшчэ праз паказвае, што знікненне майго пашпарта — не выпадковасць".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

# Сяргей Каваленка пачаў самастойна выходзіць з галадоўкі

*Пра гэта "Народнай Волі" паведаміла жонка віцебскага актывіста КХП—БНФ Алена.*

У мінулую пятніцу Сяргея ў псіхіятрычнай лячэбніцы ў Навінках наведаў ягоны бацька Аляксандр:

— Самая добрая навіна ў тым, што Сяргей самастойна распачаў выхад з галадоўкі, ён пагадзіўся есці сам, таму зонд яму ўжо не ставяць, — гаворыць Алена. — Бацька перадаў Сяргею сокі і садавіну. Выглядае Сяргей па-ранейшаму знясіленым, хаця стараецца трымацца. Высветлілася, што ніякіх лекаў Сяргею цягам месяца, пакуль ён будзе праходзіць комплексную экспертызу, даваць не будуць — сэнс гэтай экспертызы ў назіранні, а не ў лячэнні. Па выніках экспертызы будзе прынята нейкае рашэнне.

Дарэчы, высветлілася, што 10 красавіка, калі муж яшчэ знаходзіўся на тэрыторыі калоніі "Віцьба-3", ён настойваў на тым, каб яго адвезлі ў Віцебскі абласны суд, які павінен быў разглядаць касацыйную скаргу па ягонай справе. Атрымаўшы адмову, Сяргей пачаў самастойна вырываць катэтары з рук і моцна пашкодзіў вену. Хаця, як вядома, суд прыняў рашэнне не разглядаць касацыйную скаргу, а накіраваць Сяргея на псіхіятрычную экспертызу. І толькі пасля заключэння медыкаў судом будзе разгледжана касацыя.

Сяргей кажа, што ўмовы ўтрымання ў "Навінках" значна лепшыя, чым у "Віцьбе". У "Навінках" яго не прывязваюць да ложка і выводзяць у прыбіральню..."

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

# Ці вернуцца паслы?

*Пытанне аб тым, калі ў Мінск вернуцца еўрапейскія паслы, будзе абмеркавана днямі на пасяджэнні замежнай службы Еўрасаюза.*

Пра гэта паведаміў першы сакратар польскага пасольства ў Мінску **Павел Марчук.**

*"На гэтым тыдні павінна адбыцца пасяджэнне замежнай службы Еўрасаюза і будзе прынята рашэнне, ці вернуцца еўрапейскія амбасадары ў Мінск альбо кансультацыі будуць працягвацца,* — сказаў Павел Марчук. — *Умовай вяртання амбасадараў надалей з'яўляецца вызваленне і рэабілітацыя ўсіх палітвязняў".*

Нагадаем, што дыпламатычны канфлікт на лініі Брусель—Мінск працягваецца з лютага, калі беларускія ўлады параілі паслу Польшчы **Лешаку Шарэпку** і прадстаўніцы Еўрасаюза **Майры Мора** *"выехаць у свае сталіцы дзеля кансультацый"*. У знак салідарнасці Беларусь пакінулі паслы ўсіх еўрапейскіх краін.

Адпаведна ў Мінск былі адкліканы пастаянны прадстаўнік Беларусі пры Еўрасаюзе **Андрэй Еўдачэнка** і пасол Беларусі ў Польшчы **Віктар Гайсёнак.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# Кадры, которые ничего не решают

## Система глазами чиновников

***В конце прошлого года "Народная Воля" напечатала беседу с заведующим кафедрой идеологии и политических наук Академии управления при президенте Республики Беларусь Николаем МАЛИШЕВСКИМ. Интервью получилось скандальным и многих удивило. Впервые человек столь высокого официального ранга признал катастрофически низкий уровень образования и культуры тех, кто управляет или готовится управлять страной. К примеру, Николай Малишевский вспомнил случай, когда студент не мог ответить на простейший вопрос о дате начала Великой Отечественной войны.***

***Сегодня Николай работает в другом месте, пишет книги, статьи...***
***Одну из них предлагаем вашему вниманию.***

Согласно данным мониторинга о состоянии работы по дебюрократизации госаппарата, проведенного Информационно-аналитическим центром президентской Администрации РБ, каждый пятый минский чиновник фактически хам и грубиян. Два из пяти — безразличные формалисты... И это результаты официального социсследования! Интеллектуальная убогость, бездушие и узковедомственная ущербность чиновников — одна из ключевых проблем белорусской власти. Однако не все белорусские чиновники хамы и формалисты.

Предлагаемый материал — это прежде всего точка зрения части белорусских управленцев, проходивших переподготовку в Академии управления при президенте РБ. Эти люди занимают солидные должности. На учебу в академии они смотрели серьезно. Как управленцы-практики, владеющие материалом, открыто высказывали мысли. Надеялись: здесь, как им казалось, в своем кругу их поймут... Увы, чтоб этого не случилось, фамилии их я вынужден опустить. Знаю, всегда найдутся "доброжелатели", которые постараются создать деловым людям серьезные проблемы.

Так что же эти продвинутые чиновники считают основными проблемами управления, препятствующими эффективному управлению и развитию страны? Прежде всего решение кадровых вопросов. К ним они, конечно же, относят "*отсутствие системной кадровой политики*", "*старые кадры, как по возрасту, так и по уровню понимания перспектив*", "*крайне неэффективное использование молодых кадровых ресурсов*", отсюда "*отсутствие желания у большинства руководителей организаций что-либо менять, модернизировать*". По мнению руководителей, "*сегодня всякий человек, получивший где-либо и какое-либо образование, стремится к управлению. Число управленцев умножилось до крайности, но повсюду ощущается дефицит способных чиновников*". Имеющийся в распоряжении кадровый резерв "*существует в большем количестве случаев для "галочки",* поскольку "*принцип устройства "дочек, сватьев, братьев, друзей, друзей друзей, хорошо знакомых и т.п. по "звонку" по-прежнему сохраняется и носит повсеместный характер. Доходит уже до того, что в ряде случаев должности получают не профессионалы, а зачастую даже и не специалисты по необходимому направлению*".

Белорусский президент постоянно твердит, что государству не хватает молодых кадров. Тем не менее в августе 2011 года он подписал указ, позволяющий чиновникам с разрешения президента оставаться на госслужбе и после 65 лет. Сегодня большинство представителей первого звена белорусской номенклатуры — это чиновники еще советской закваски, давно перешагнувшие 65-летний рубеж. А.Лукашенко обещал сократить бюрократический аппарат РБ еще в 1994 году. Но все последующие годы, несмотря на постоянно декларируемую дебюрократизацию, аппарат неуклонно только разрастался. Для сравнения: в 1994 году чиновников было в три раза меньше, а населения в Республике Беларусь — на полмиллиона больше. Оно и понятно, детки и внуки растут и каждому надо местечко потеплее.

Следующая проблема — "*жесткая централизация власти на всех уровнях*" и "*повсеместное использование административного ресурса при принятии политических решений*". В этом контексте интересна точка зрения некоторых управленцев на специфику белорусской избирательной системы: "*выборы осуществляются прямым способом, однако в ряде случаев наблюдается безальтернативность этого процесса. Эта проблема часто встречается при выборах в местные советы (на селе). Из года в год в деревне ... выдвигают одного кандидата "И.И.", а второго "С.С." выдвигают из другой деревни или вообще незнакомого (слабого оппонента). В итоге "И.И." снова становится депутатом. В районный/областной Совет выдвигают известного руководителя предприятия, а вторым и даже третьим выступают безвестные "трактористы" и "доярки". В итоге Совет сформирован на 95% из нужных людей. Некоторые схожие черты присутствуют и при проведении президентских выборов. Присутствует только один кандидат. Остальные 1—10 — представители малопопулярной в стране оппозиции. Мое мнение: для динамичного развития государственного политического управления на разных уровнях необходимо присутствие свежих мозгов. Даже если они на 100% разделяют политику предшественников*".

Еще одной "*из актуальнейших проблем в сфере политического управления в Республике Беларусь*" является "*слаборазвитая система местного самоуправления и сильная власть на республиканском уровне*". "*Назревающая проблема отрыва центральных органов управления от местных, вытекающая из отрыва от реальности*", приводит к "*планированию и доведению нереальных программ и требований*".

Существенной проблемой стало дублирование функций республиканского и местного управления и "*одновременное подчинение нескольким управлениям, министерствам"*, которые также "*во многом препятствуют эффективной работе*". Один из примеров того, чем это оборачивается на практике: "*ПРУП "Минскоблгаз" входит в состав Министерства энергетики и подчиняется ГПО "Белтопгаз". На предприятии работает около 3000 человек. Основной задачей предприятия является бесперебойное и безаварийное обеспечение природным и сжиженным газом населения, промышленных предприятий и других потребителей Минской области. Но сегодня, кроме обслуживания систем газоснабжения, предприятие занимается проектированием, строительством этих систем, а также растениеводством и животноводством в присоединенном сельхозпредприятии и разработкой торфяных месторождений и производством топливных брикетов на присоединенном торфобрикетном заводе. И на данный момент трудно понять — чем же мы больше занимаемся: газом, сельским хозяйством или торфом. Система управления построена таким образом, что подчиняемся мы и Министерству энергетики, и Государственному производственному объединению "Белтопгаз", и Минскому областному исполнительному комитету, и все вышеперечисленные органы управления контролируют и регулируют все направления нашей деятельности*".

Не менее значимыми проблемами общегосударственного уровня в сфере политического и экономического управления в республике являются "*сильная президентская власть и вмешательство президента практически во все сферы жизни общества через систему органов государственного управления", "существующая система жесткого административного управления",* благодаря которой *"на принимаемые решения рядовые жители страны не имеют сколько-либо значительного влияния, так как отсутствует обратная связь, так называемый диалог между чиновником и гражданином*".

По мнению белорусских управленцев, политическое руководство республики "*несет всю полноту ответственности за постоянное ухудшение экономической ситуации. Все эти ухудшения стали результатом неадекватных решений на развитие экономики*". Сегодня органы госуправления *"не являются партнерами и помощниками субъектов хозяйствования в реализации госполитики, а, как правило, выступают контролерами и приказчиками. Чиновники недоступны зачастую для решения конкретных вопросов через рядовых руководителей. Они не всегда способны, боятся принимать решение, не умеют прогнозировать на перспективу, мыслят многие местечково*". Закономерно, что в этих условиях народ "*не осознает себя частью государства, пытается всячески "обмануть", "получить выгоду" и т.д. Свои частные потребности становятся выше государственных; нет осознания того, что государство может распоряжаться только теми денежными средствами, которые непосредственно зарабатываются страной, т.е. самими гражданами".*

Причины эти специалисты видят прежде всего в "*неповоротливости даже при принятии несрочных управленческих решений, несвоевременности доведения данных управленческих решений до объектов управления*". Как это выглядит на практике: "*при проявлении первых признаков нестабильности, в первую очередь экономической, систему начало заметно лихорадить. Для меня, как работника госоргана, подчиненного правительству, это стало особенно очевидно по увеличению, причем значительному увеличению, количества документов и поручений, имеющих достаточно узкую направленность. Это в первую очередь создание различного рода стратегий: будь то стратегия по сокращению запасов готовой продукции на складах предприятий, или стратегия по выполнению целевых прогнозных показателей, или стратегия по увеличению экспорта, да и многое другое. Самое большое удивление, возмущение, можно сказать, негодование, вызывает то, что основное количество документов по данному вопросу происходит из Минэкономики, органа, который и должен разрабатывать подобные документы, программы, стратегии, разрабатывать и доводить другим госорганам для исполнения, а не заниматься "сводом" информации. Кроме того, удивляют сроки, отпущенные на разработку таких основополагающих документов, — от 2 до 10—12 дней. При таких сроках о качестве подготавливаемых документов можно скромно умолчать*".

Жалуются управленцы белорусского президента и на такую проблему, как "*чрезмерная зарегулированность*". Иначе говоря, "*крайне детализированное и жесткое регулирование всех сфер функционирования хозяйствующих субъектов, не дающее возможность выбирать эффективные стратегии и тактику поведения. Такой подход дает достаточно большие свободы немалому количеству контролирующих и проверяющих органов. Громоздкость и порой противоречивость законодательства позволяет проверяющим всегда найти проблемные вопросы, ставя один законодательный или нормативный акт выше другого. Квалификация проверяющих также оставляет желать лучшего. Отсюда вытекает их нежелание (точнее отсутствие возможности) вникать в суть проблем. Проверяется все "по написанному" в меру собственного понимания*".

Несколько слов о постоянно декларируемой президентом борьбе с коррупцией и бюрократией в госструктурах. Как правило, эта "борьба" ведется не с причиной, а со следствием. Тем не менее даже такая бесполезная борьба властям не под силу. И поэтому Генеральная прокуратура все чаще вносит предложения "по гуманизации уголовного законодательства" в виде снижения сроков за взятки...

Еще один не менее широко разрекламированный тезис — борьба с импортом. По мнению управленцев, она "*бессмысленна*", поскольку "*не учитывает реальную ситуацию в части возможностей промышленных предприятий республики, особенно в сфере высоких технологий, где отечественные предприятия с трудом осваивают отверточную сборку. Попытки наладить производство всего спектра необходимой стране продукции не могут дать должного эффекта, так как потеряно слишком много времени и пропасть отставания от высокоразвитых иностранных производств только будет расти, пока предпринимаются эти жалкие попытки "латания дыр". "Отверточная сборка опоздала лет на пятнадцать. Объемы и сальдо импорта не изменятся — все комплектующие так или иначе являются импортными, отечественная сборка удорожает продукцию для конечных потребителей, а ее качество будет заведомо хуже*".

В целом "*общими для всех проблемами являются: коррупция в госструктурах; отсутствие нормативной базы в необходимом объеме, методических рекомендаций; нежелание брать ответственность за принятые решения; несовершенное законодательство; низкая квалификация руководителей; нежелание работать в принципе (отсутствие инициативы); отсутствие взаимодействия между структурами; отсутствие финансирования для достижения поставленных планов-задач*", а также "*отсутствие средств массовой информации, выражающих объективные точки зрения*". Все "*вышеперечисленные проблемы носят закоренелый, устоявшийся характер. Несмотря на попытки, предпринимаемые властью, ситуация практически не меняется, а отчетные решения по проблемам носят поверхностный характер — была бы вовремя подписана отчетная бумажка*".

Белорусская бюрократия базируется на управленческом централизме. Он очень удобен властям предержащим, но в силу своей интеллектуальной инертности и неповоротливости постоянно создает все новые, уже не поддающиеся решению проблемы. По словам экс-спикера верхней палаты парламента РБ А.Войтовича, "*главное в нашем государственном аппарате, как там говорят, — выдерживать линию*", при этом работать "*даже не требуется*". Как следствие — во властных коридорах уже практически не осталось специалистов, пытающихся отстаивать собственное мнение. Остающимся "специалистам" проще перекладывать ответственность на "самого главного начальника". Дескать, он делает, что хочет, а мы, несчастные, за все отвечаем, поскольку в РБ "*выработана и продолжает совершенствоваться совершенно уникальная система политического управления... Уникальность ее заключается в том, что в основном решения, касающиеся государственной деятельности, принимает глава государства, а ответственность за принятие решений несет окружение*". Политическая сфера деятельности "*используется недостаточно эффективно. Это результат концентрации всей политической власти в руках одного человека. При том, что номинально в РБ провозглашен принцип разделения властей на судебную, законодательную и исполнительную. Фактически одна ветвь политической власти сделала неэффективной и поглотила две другие ветви власти*".

К сожалению, дельные советы и толковые рекомендации людей знающих, непосредственно занимающихся управлением, производством, как всегда, оказываются никому не нужными. Особенно те, что направлены на исправление и улучшение ситуации. Ведь это может только создать проблемы. На местах и в центре. Особенно в центре. На этом зиждется созданная в республике система. Нынешняя власть никогда не пойдет на ее изменение. Чем грозят подобные перемены, она прекрасно понимает. Крахом. Но если срочно ничего не менять, крах тем более будет неминуем.

**Николай МАЛИШЕВСКИЙ.**

### От редакции

*Цитаты, приведенные в материале, подлинные. Николай Малишевский продемонстрировал нам досье анкет своих бывших студентов.*

СРАВНИМ...

# Сколько зарабатывают российские чиновники?

*О том, сколько зарабатывают белорусские министры и другие чиновники, узнать официально практически невозможно. Другое дело в России. На днях Росстат опубликовал сведения о средней зарплате российских чиновников за 2011 год.*

В Беларуси зарплаты министров и депутатов — тайна за семью печатями. В Национальном статистическом комитете ссылаются на то, что это конфиденциальная информация, и никогда зарплаты белорусских чиновников и высших должностных лиц не озвучивают. Иногда, правда, сам чиновник может проговориться. Например, недавно министр экономики **Николай Снопков** признался, что зарабатывает около 750 долларов в месяц.

Другое дело в России. На днях Росстат опубликовал сведения о средней зарплате чиновников за 2011 год. И вся страна узнала, что средняя зарплата российских чиновников в 2011 году составила 62.600 рублей. Это более 2 тысяч долларов. Средняя же зарплата по России в этот период (с января по ноябрь 2011 года) была значительно ниже — 22.865 рублей, или около 765 долларов.

Даже при таком сравнении никто в России не скрывает, что, например, у служащих Администрации президента РФ зарплата в прошлом году увеличилась на 5,2% и составила 90,326 тысячи рублей — чуть больше 3000 долларов. А зарплата госслужащих в аппарате правительства хоть и уменьшилась на 1,8%, но все равно остается немаленькой — в среднем 102,081 тысячи рублей — около 3,5 тысячи долларов.

Что касается Министерства экономики, то там в среднем зарабатывают 2,6 тысячи долларов. И понятно, что труд министра оценивается выше этой суммы и в разы превышает зарплату белорусского коллеги.

В некоторых других российских министерствах и ведомствах средняя зарплата в прошлом году составляла: в Министерстве финансов — около 3 тысяч долларов, в Министерстве обороны и в Министерстве здравоохранения и социального развития — около 2,5 тысячи, в Следственном комитете — 2,6 тысячи, в Конституционном суде — приблизительно 2,4 тысячи долларов.

К слову, 12 апреля о своих заработках в 2011 году отчитались президент Росии **Дмитрий Медведев** и премьер-министр **Владимир Путин.** Годовой доход Медведева составил 3,4 миллиона рублей, а Путина — 3,7 миллиона рублей. В пересчете на доллары это приблизительно 113 тысяч 300 и 123 тысячи 300 долларов соответственно.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПЕРАМОВЫ

# На выданні

## МАЗ, маторны завод і БАТЭ могуць увайсці ў сумесны беларуска-расійскі холдынг.

Беларусь хуткім часам можа страціць поўны кантроль над Мінскім аўтамабільным заводам і некаторымі іншымі прадпрыемствамі. Уладзімір Сямашка ўпершыню назваў вынікі рынкавай ацэнкі кампаній. *"Мы выйшлі на ацэнку КамАЗа, калі не здраджвае памяць, у 1,68 мільярда долараў і МАЗа ў 1,095 мільярда долараў. Абмяркоўваецца пытанне стварэння холдынгавай структуры "Росбелавто" са штаб-кватэрай у Маскве, у якую будуць унесены адпаведныя пакеты акцый прадпрыемстваў",* — паведаміў Сямашка.

*"Мяркуецца, што гэта будуць 49% акцый КамАЗа, якім валодае расійская дзяржава праз кампанію "Ростехнологии", Тутаеўскага маторнага завода і яшчэ двух больш дробных прадпрыемстваў. З нашага боку, мы прапануем унесці 49% акцый МАЗа. Але гэта прадмет абмеркавання, таму што расійскі бок прапануе 51% и па 50% акцый Мінскага маторнага завода і БАТЭ. У выніку ў ствараемым холдынгу расійскі бок атрымае недзе 54% акцый, беларускі — 46%".*

СТАЛІЦА

# Азелянняльнікі здзівяць

У Мінску гэтым летам плануецца высадзіць больш за два мільёны кветак. Напярэдадні сезона азеляняльнікі распрацавалі праекты кветкавага афармлення горада. Новыя кампазіцыі, у тым ліку нацыянальнай тэматыкі, з'явяцца на галоўных мінскіх праспектах — Незалежнасці і Пераможцаў.

Каля аўтавакзала "Маскоўскі" "прызямліцца" бусел з кветак. У якасці дэкаратыўных элементаў будуць прымяняць габіёны — канструкцыі ў форме каркаса з металічнай сеткі, запоўненыя друзам, галькай або камянямі. Навінкі ўпершыню размясцілі ў 2011 годзе ў гатэлі "Планета". Гэтым летам арыгінальныя сеткаватыя кампазіцыі ў форме пірамід з'явяцца на праспекце Пераможцаў і каля будынка Нацыянальнай акадэміі навук. Кветкавы сезон азеляняльнікі пачнуць у трэцяй дэкадзе красавіка.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Праўдалюбец



Гэтая гісторыя адбылася ў вёсцы з рамантычнай назвай Цёмны Лес, што на Дрыбіншчыне ў Магілёўскай вобласці. Пажылы інтэлігентны чалавек, які не курыць, не п'е, не церпіць маны і якога аднавяскоўцы завуць праўдалюбцам, разам са сваім родным братам задумаў адкрыць у вёсцы літаратурна-музычны цэнтр для дзяцей і моладзі. Аднак гэтая задумка не ажыццявілася, а нашага героя абвінавацілі ў крымінальным злачынстве і судзілі. Нягледзячы на тое, што Генеральная пракуратура двойчы апратэстоўвала прысуд, ён да гэтай пары не адменены. І вось ужо пяты год праўдалюбец б'ецца за праўду і справядлівасць, таму што не можа жыць з паклёпам. А яму, дарэчы, пайшоў ужо 79-ы год.

Уладзімір Канстанцінавіч Уткін нарадзіўся і ўсё жыццё пражыў у Цёмным Лесе, дзе на вясковых могілках ляжыць не адно пакаленне яго родных і блізкіх. Бацька загінуў на фронце, і месца яго пахавання да гэтай пары невядомае. У родным калгасе Валодзя пачаў працаваць з 10 гадоў. Пасля службы на Чырвонасцяжным Балтыйскім флоце вучыўся ў сярэдняй школе, працаваў трактарыстам, а пасля заканчэння Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках — механікам і галоўным інжынерам саўгаса. Затым Уладзімір Канстанцінавіч атрымаў яшчэ адну вышэйшую адукацыю пасля заканчэння гістарычнага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага.

Калегі па працы і суседзі характарызуюць нашага героя выключна станоўча. У калектыўнай характарыстыцы на Уладзіміра Уткіна 25 яго землякоў пішуць пра тое, што ён сумленна і справядліва ставіцца да людзей, а ў цяжкую хвіліну бескарысліва іх падтрымлівае. Так, на пачатку 1990-х гадоў на працягу трох месяцаў штодзень з 3 до 7 раніцы, а пасля працы — да позняй ночы ён адзін на бульдозеры бясплатна асфальтаваў вуліцу Лясную, дзе жыве і дзе раней былі непралазная гразь и вялізныя лужыны. Затым па ініцыятыве Уткіна ў вёсцы быў закладзены парк. Наш герой — удзельнік вясковага народнага фальклорнага ансамбля "Журавінка", неаднаразова абіраўся дэпутатам Цёмналескага сельсавета і Дрыбінскага райсавета. Разам з жонкай яны выгадавалі чацвярых дзяцей, якім далі вышэйшую адукацыю. У характарыстыцы на Уткіна былы старшыня Горацкага райвыканкама Міхаіл Анікееў паведамляе, што ведае Уладзіміра Канстанцінавіча з 1973 года па сумеснай працы ў саўгасе "Дрыбінскі" і характарызуе яго "як добрасумленнага, кваліфікаванага, адказнага, прынцыповага, стараннага работніка". *"Як дэпутат Уткін карыстаўся заслужаным аўтарытэтам сярод насельніцтва, аказваў дапамогу людзям у вырашэнні іх просьб, быў уважлівы да іх заяў і патрэб",* — адзначаецца ў характарыстыцы. А былы дырэктар саўгаса "Слава" Уладзімір Гоманаў характарызуе Уладзіміра Уткіна як спраўнага, добрасумленнага і патрабавальнага спецыяліста, які паважліва і спагадліва ставіўся да калег і падначаленых.

У 2000 годзе для стварэння ў вёсцы літаратурна-музычнага цэнтра Уладзімір Уткін разам са сваім родным братам Міхаілам прыдбаў дом па вуліцы Лясной. У гэтым доме і павеці, якая стаяла побач, браты размясцілі каля 3 тысяч грамафонных пласцінак з творамі эстраднай, камернай, опернай і сімфанічнай музыкі, адпаведную спецыяльную і мастацкую літаратуру, а таксама тэхнічнае абсталяванне. Аднак праз некаторы час невядомыя вандалы зрабілі пагром у доме і павеці, знішчылі і скралі праектар і дыяфільмы, а таксама частку пласцінак і кніг.

У 2004 годзе брат Уладзіміра Уткіна па суседстве з ім прыдбаў яшчэ адзін вясковы дом, куды браты перанеслі частку своёй калекцыі з надзеяй, што зламыснікі пакінуць іх у спакоі. Аднак і гэты дом №11 па вуліцы Лясной стаў аб'ектам разбойнага нападу. Прычым невядомыя здзейснілі злачынства без усялякага страху за наступствы, нягледзячы на тое, што іх могуць убачыць.

12 верасня 2007 года ў дзявятай гадзіне вечара Уладзімір Уткін убачыў такую карціну: на дарозе насупраць дома №11 па вуліцы Лясной стаіць матацыкл, на якім сядзіць невядомы, а другі матацыкл стаіць каля плоту таго ж дома. Паводле слоў Уладзіміра Уткіна, разам з сынам яны падышлі да невядомага, якім аказаўся мясцовы жыхар — 19-гадовы Аляксандр Нікіфараў, каб высветліць яго намеры на бязлюднай вуліцы ў цёмны час сутак, а таксама імя ўладальніка другога матацыкла. Аднак замест адказу Уладзімір Уткін атрымаў абразы ў свой адрас.

14 верасня бацька Аляксандра Нікіфарава напісаў заяву на імя начальніка Дрыбінскага РАУС з просьбай расследавать інцыдэнт, кампенсаваць сыну маральныя выдаткі і прыцягнуць Уладзіміра Уткіна да адказнасці. З заявы вынікала, што Уладзімір Уткін спрабаваў ударыць віламі ў жывот Аляксандра Нікіфарава. Ён ў сваёй заяве ў міліцыю ад 15 верасня ўжо просіць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці Уладзіміра Уткіна, які, паводле слоў юнака, без усялякай прычыны хацеў ударыць яго віламі, і ён "рэальна асцерагаўся за сваё жыццё". Пры гэтым заяўнік указаў, што ён папярэджаны аб адказнасці за заведама хлуслівы данос, згодна з артыкулам 400 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Юрыдычна дакладны тэкст гэтай заявы сведчыць пра тое, што яна, верагодней усяго, была напісана пад дыктоўку.

Праверку заяў праводзіў старшы лейтэнант міліцыі Аляксандр Галдобенка, які ў сваім рапарце ўказаў, што Уладзімір Уткін, "знаходзячыся ва ўзбуджаным стане, паводзіць сябе агрэсіўна, можа прычыніць цялесныя пашкоджанні пабочным асобам без якой-небудзь прычыны". Пра гэта Галдобенку нібыта паведамілі трое жыхароў Цёмнага Лесу. Аднак у гутарцы з нашым героем гэтыя жыхары адмаўлялі сам факт такіх сведчанняў міліцыянеру, а двое з іх нават пісьмова пацвердзілі гэта.

16 лістапада 2007 года суд Дрыбінскага раёна прызнаў Уладзіміра Уткіна "вінаватым у пагрозе забойствам, калі меліся падставы апасацца яго ажыццяўлення", і аштрафаваў нашага героя на 930 тысяч рублёў (30 базавых велічынь). Прычым гэты прысуд быў вынесены, нягледзячы на шматлікія супярэчнасці ў паказаннях сведкаў з боку абвінавачання. Так, бацькі Аляксандра Нікіфарава заяўлялі пра тое, што Уладзімір Уткін кінуў вілы ў іх сына, якому ўдалося адхінуцца, і таму прылада забойства праляцела паблізу. У сваю чаргу падчас суда юнак паказаў, што Уткін спрабаваў "тыкнуць віламі мне ў жывот".

Хаця па амністыі наш герой быў вызвалены ад пакарання з зняццем судзімасці, ён да гэтай пары звяртаецца ў Генеральную пракуратуру і Вярхоўны суд з просьбай адмяніць прысуд як незаконны і неабгрунтаваны. Уладзімір Уткін упэўнены, што яго крымінальны пераслед — своеасаблівы адказ чыноўнікаў на яго з братам актыўную грамадзянскую пазіцыю, што праявілася ў падтрымцы аднавяскоўцаў, якія засталіся без працы пасля ліквідацыі саўгаса "Слава" ў вёсцы Цёмны Лес. Нядаўна наш герой перанёс складаную аперацыю ў сталічнай клініцы. Адразу пасля выпіскі ён зноў адправіўся ў Генпракуратуру, каб высветліць лёс сваёй чарговай скаргі. Аднак пасля гэтага візіту Уладзімір Канстанцінавіч ізноў злёг у бальніцу. Дык пажадаем яму хутчэйшай папраўкі, добрага здароўя і аднаўлення справядлівасці!

**Марат ГАРАВЫ.**

*Дрыбінскі раён.*

БОЛЬ

# Герой са сцягам

Хачу далучыцца да ўсіх сумленных людзей Беларусі, якім не абыякавы лёс нашага суайчынніка Сяргея Каваленкі. Гэта самая балючая драма, якая адбываецца на нашых вачах. Сяргей трымае галадоўку і не збіраецца спыняць яе — нават коштам свайго жыцця.

Ён вывесіў на навагодняй ёлцы гістарычны сімвал нашай Айчыны — бел-чырвона-белы сцяг і за гэта сядзіць за кратамі. Што ж гэта робіцца на нашай зямлі? Мы што, вяртаемся ў 1937 год? Учынак Ціцянкова, які рваў на шматкі наш гістарычны сцяг, не меў ніякага пакарання. Сяргей сённяшняга бальшавіцкага сцяга не рваў, бомбы не ўзрываў, нікога не абразіў. Ён ніякага праступка не здзейсніў, а за што пакараны?

Да канца Вялікай Айчыннай вайны ў СССР быў адзіны чырвоны сцяг і герб. На пачатку 50-х гадоў XX стагоддзя, калі была створана Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, Савецкі Саюз, увайшоўшы ў гэтую арганізацыю, пацягнуў за сабою Беларусь і Украіну як самастойныя рэспублікі. Узнікла пытанне, як іх адрозніваць. Сталін даў загад усім рэспублікам СССР — распрацаваць флагі і гербы. Усе флагі былі ўтвораны чырвоныя з адметнай паласой знізу: расійскі — чырвоны з блакітнай палоскай, беларускі — чырвоны з зялёнай і гэтак далей. Гербы былі ўсе круглыя з унутранымі адмецінамі.

Пасля распаду СССР усе былыя рэспублікі СССР абвясцілі незалежнасць і адрадзілі сваю нацыянальную сімволіку. Гэтак зрабіла і Беларусь. Але ўлада не хацела нацыянальнага адраджэння. Паводле вынікаў сумнавядомага рэферэндуму 1995 года нашы нацыянальныя сцяг і герб былі заменены зноў на бальшавіцкія. Хаця нават сама Расія адмовілася ад бальшавіцкай сімволікі. Што ж тут казаць? Гэта наша гора, гэта наш боль, гэта наш сорам. Для тых, хто сёння пры ўладзе, гісторыя мовы, гістарычныя сімвалы Беларусі нічога не значаць. І яны хочуць зламіць іншых, тых, хто памятае свае карані.

Дарагі Сяргей! Вы патрэбны нам, нашай Беларусі. Вам трэба жыць, змагацца за нашу будучыню, за будучыню нашых дзетак, унукаў, праўнукаў. За нашу сапраўды вольную і незалежную Беларусь. Сяргей, прашу Вас паберагчы сябе!

**Аркадзь ЗМАЧЫНСКІ, пенсіянер.**

*Мінск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# «Духаўнікі»

**Шаркаўшчынская раённая газета параўнала ўладных ідэолагаў з духаўнікамі народа.**

**Віцебскі аблвыканкам аб'явіў конкурс сярод ідэолагаў. Пераможца будзе вызначацца па 14 паказчыках.**

*Сход ідэолагаў. У зале*
*Актыў сабраўся абласны.*
*Там дух, як некалі казалі,*
*Лунаў нябесны, незямны.*
*І старшыня галоўны сходу*
*Там выказаў пасаж такі:*
*— Вы, ідэолагі, —*
*Народа*
*Сапраўдныя духаўнікі.*
*Няхай цяпер на цвік павесіць*
*Свой крыж*
*Свяшчэннік кожны наш:*
*У Бога запаведзяў дзесяць,*
*У нас жа — чатырнаццаць аж.*
*Вы іх даносьце ўсім не ўпотай:*
*У нас зямны, адзіны бог...*
*А мы праверым пільна потым,*
*Што кожны з вас данесці змог.*
*Такімі словамі натхнёны,*
*Падаўся ў родны свой раён*
*Галоўны "духаўнік" раёна,*
*"Галоўны балабол" Антон.*
*Антон памкненні меў святыя.*
*У гэтакі няпросты час*
*Адразу ж запаведзі тыя*
*Панёс ён да народных мас.*
*Спярша пабыў ён на заводзе,*
*"Размову шчырую" завёў.*
*Рабочыя ж абсеклі:*
*— Годзе!*
*Ты не задурвай нам галоў*
*Сваёй пустою балбатнёю.*
*Наслухаліся мы ў жыцці...*
*Зрабі лепш сапраўды "святое" —*
*Зарплату большую плаці.*
*Глядзі, які ты тлусты, спраўны,*
*А мы худзейшыя ўдвая.*
*Не лезе на галодны страўнік*
*Ідэалогія твая.*
*На рабацяг, на іх прамовы*
*Зусім пакрыўдзіўся Антон:*
*"Рабочы клас наш — бесталковы,*
*Адно што назва — гегемон..."*
*Каб загаіць на сэрцы раны,*
*Антон паехаў у калгас.*
*"Народ там цёмны, занядбаны,*
*І трэба духаўнік якраз..."*
*Люд у так званы Дом культуры*
*Сагналі ў тлумнай чарадзе.*
*Таму ён змрочны і пануры.*
*Антон жа ўзнёсла рэй вядзе:*
*Пра нашы поспехі і планы,*
*Пра слаўны наш дзяржаўны лад...*
*Але "народ той занядбаны"*
*Паносу слоўнаму не рад.*
*Уставіла Ганулька слова:*
*— Пакуль ты разяўляеш рот,*
*Раве ў маім хляве карова*
*І не праполаны гарод.*
*Дадаў механізатар Коля:*
*— Твой выступ — як сядло казе.*
*Мой трактар месяц на прыколе —*
*Ніхто запчастак не вязе.*
*Прашамкала і баба Маня:*
*— Пакуль выказваў ты запал,*
*Я прапусціла на экране*
*Цікавы вельмі серыял.*
*Напрыканцы алкаш Даніла*
*Нарэшце "ўбіў апошні цвік":*
*— А можа, мне нальеш "чарніла"*
*Ты... ік... таварыш бальшавік?*
*У кожнага — свая турбота,*
*Да "запаведзяў" спраў няма.*
*Хоць прызнавацца неахвота,*
*Ды глотку рваў Антон дарма.*
*Імпэт Антона ўсё ж не вяне,*
*Не знае ён згрызот-пакут:*
*"Што рабацягі, што сяляне —*
*Ну што з іх возьмеш? — цёмны люд...*
*Не той народ, што быў учора,*
*У злагадным СССР.*
*Інтэлігенты — вось апора*
*Ідэалогіі цяпер!"*
*З узнёсласцю да педагогаў*
*Падаўся ўладны "духаўнік".*
*У школе балаболіў многа,*
*Да самых душ, лічыў, пранік.*
*А потым, як святы апостал,*
*Настаўнікам ён даў наказ:*
*— Выхоўваць вучняў вам няпроста*
*У гэты пераходны час.*
*Ды абавязак ваш — закласці*
*У неакрэсленых мазгах,*
*Што ўлада наша — гэта шчасце,*
*І з ёю ў будучыню шлях.*
*Настаўнікі разводзяць рукі:*
*— Хіба ж мы ім — аўтарытэт?*
*Для іх калодзежам навукі,*
*Ідэй крыніцай — інтэрнэт.*
*Затым чамусьці тыя ж словы*
*Чуў ад настаўнікаў Антон:*
*Пра вечны дэфіцыт грашовы*
*І пра нішчымны рацыён...*
*Цяпер Антон жыве ў адчаі:*
*"Ну што ў нас за народ такі?*
*На дабрабыт правы качае,*
*Хоць трэ найперш духаўнікі.*
*Народ наш тлумны, безнадзейны,*
*Нас не бярэ да галавы..."*
*Тым часам у дзянёк нядзельны*
*Да старажытнае царквы*
*Сцякаўся просты люд мясцовы —*
*І пажылы, і малады.*
*Ніхто не крочыў прымусова,*
*Самохаць люд ішоў сюды.*

* * *

*"Духаўнікоў" прыўладных многа,*
*Яны паўсюдна — як гарох.*
*І ўсё-такі зямнога бога*
*Той, што на небе, перамог...*

МІЖ РАДКОЎ

# Галалёд і галалёдзіца

Чытаю "Народную Волю"... У звестках аб надвор'і ёсць фраза "...у асобных раёнах галалёд, на дарогах галалёдзіца". Ствараецца ўражанне, што галалёдзіца гэта не галалёд.

Бяру тлумачальны слоўнік беларускай мовы і чытаю: "Галалёд — тое, што і галалёдзіца". Дык у чым справа? А вось у чым. Калісьці была добрая савецкая радыёперадача "В мире слов". І там нейкі педант ад філалогіі тлумачыў, што галалёд на дарозе — гэта галалёдзіца. І, маўляў, толькі так і трэба гаварыць аб галалёдзе на дарогах. Гэта ў рускай мове. І няхай. Але ў нашай мове гэта тое самае. Чаму не сказаць проста "...на дарогах і ў асобных раёнах галалёд"? А так як сказаць "у асобных раёнах" — гэта значыць нічога не сказаць, то лепей за ўсё "...на дарогах галалёд". І дзе хто бачыў на дарогах папярэджанне "Асцярожна, галалёдзіца!"? Заўсёды "Асцярожна, галалёд!" ці "Осторожно, гололед!".

Тут мяне разабрала цікавасць і да рускага варыянта. Я палез у "Словарь русского языка" і знаходжу: "Гололед. То же, что и гололедица". Вось так.

**Алесь МІРОНЕНКА.**

*Мінск.*




Не, невыпадкова ў народзе кажуць: закон што дышла — куды павярнулі, туды і выйшла.

200 ГАДОЎ ТАМУ...

# Каб ніколі не ішоў брат на брата...

Пасля канчатковага захопу царскай Расіяй усіх літоўскіх (беларускіх) земляў ВКЛ у 1795 годзе маскоўскія ўлады абцяжарылі становішча тагачасных нашых землякоў грабежніцкім падаткам — большым у чатыры-пяць разоў, чым у самой Расіі. Былі ўведзены рэкруцкія наборы, чаго наша краіна раней зусім не ведала. Паўмільёна вольных сялян-ліцвінаў усходнія "браты" зрабілі прыгоннымі і раздалі сваім памешчыкам. Беларускія гарады пазбавілі самакіравання (Магдэбургскага права)... Гэта не магло не ўзрушыць боль і непрыняцце ў народзе.

У 1812 годзе з тагачасных беларускіх земляў у расійскае войска было выстаўлена больш за 130 тысяч жаўнераў. У сукупнасці, пачынаючы ад набору 1782 года, у тым войску было больш за 220 тысяч ліцвінаў. Многія з іх загінулі ў паходах Суворава, пад Аўстэрліцам, у Прусіі, у расійска-турэцкіх войнах, іншых бітвах. На 1812 год імперскае войска Расіі складалася пераважна з рускіх і ліцвінаў (беларусаў). Іншыя нацыянальныя фарміраванні служылі па месцы жыхарства.

...Пасля абяцання Напалеона Банапарта аднавіць Вялікае Княства Літоўскае і пераходу 500-тысячнай "Вялікай арміяй" ракі Нёман многія юнакі былога ВКЛ сталі запісвацца ў напалеонаўскую армію. Узніклая Рада ВКЛ абяцала на патрабаванне французскага імператара стварыць і паслаць у ягонае войска 100 тысяч сваіх жаўнераў, але гэта немагчыма было ажыццявіць. Тым не менш радзівілаўская конніца і іншыя вайсковыя фарміраванні ВКЛ — усяго 25 тысяч войска — прымалі актыўны ўдзел у напалеонаўскай кампаніі. Па волі чужых імператараў нашы продкі мусілі часта ваяваць адзін супраць другога — свой супраць свайго!

Тым часам напалеонаўскае войска выглядала такім чынам: да 297 французскіх батальёнаў пяхоты далучалася 307 батальёнаў з заваяваных дзяржаў, а на 38 тысяч конніцы прылучалася 42 тысячы кавалерыі з іншых краін Еўропы. Масавае дэзерцірства да жніўня 1812 года стала вялікай праблемай у гэтым войску. Толькі ў лясах нашай Літвы адседжвалася 75 тысяч французскіх жаўнераў. Пачаліся масавыя рабаванні насельніцтва... 100-тысячнае войска, якое тут трымаў Напалеон, і засталося тут назаўсёды...

У выніку вайны 1812 года — крывавай міжнароднай авантуры Напалеона — нашы продкі гінулі на двух франтах, рабіліся ахвярамі чужой захопніцкай палітыкі. У Беларусі-Літве загінуў тады 1 мільён нашых жыхароў і шмат тысяч жаўнераў з розных краін. Але і пасля паразы Напалеона некаторыя беларускія палкі ваявалі ў Еўропе за чужыя інтарэсы.

Прымаючы пад увагу след у нашай гісторыі, які пакінула тая калатнеча, і, галоўнае, памяць пра загінуўшых жаўнераў і мірных жыхароў беларускай зямлі, Грамадскі камітэт **"Вялікая Літва"** плануе шэраг мерапрыемстваў у памяць ахвяр вайны 1812 года. У тым ліку павінны адбыцца міжнародная навуковая канферэнцыя з удзелам навукоўцаў Беларусі і, магчыма, Польшчы, Расіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны і іншых краін (чэрвень 2012 г.); мастацкая выстава "Нашэсце" (чэрвень 2012 г.); выпуск памятных плакатаў, календара, паштоўкі; канцэрт-рэквіем (лістапад 2012 г.).

Будзем помніць мінулае, каб на абшарах Бацькаўшчыны панаваў мір і ніколі не ішоў брат на брата!

Любая падтрымка і ваш удзел у гэтай грамадскай акцыі будуць успрыняты з удзячнасцю.

**Мікола КУПАВА, старшыня грамадскага камітэта "Вялікая Літва — гістарычная памяць Беларусі".**

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

# Не люблю я гэты рынак...

Ад любові да нянавісці, кажуць, адзін крок. Так і са сталічным ждановіцкім рынкам, які ў народзе празвалі Жданамі. Штодзень там таўкуцца тысячы людзей, і сотні машын шукаюць паркоўкі. Не ведаю, што думаюць пра яго гандляры, але ад пакупнікоў не раз чула нараканні — за яго раскіданасць, вечна запруджаныя, у калдобінах аўтастаянкі, за бруд і лужыны на тэрыторыі, за недахоп зрокавай інфармацыі. Абсягі і разгалінаванасць рынку, канцэнтрацыя людскіх патокаў яўна выходзяць за межы здаровага сэнсу і могуць стварыць гораду дадатковыя праблемы, найперш транспартныя і экалагічныя.



У двух кроках ад жылога масіву "Масюкоўшчына", дзе для фен-шуя хапае і чыгункі, размяшчаюцца гектары голай, без дрэўца, зямлі, больш падобнай на марсіянскі пейзаж. Зялёныя прысады сталі першай ахвярай гандлёвага монстра, які, падобна, не збіраецца траціць сродкі на добраўпарадкаванне і азеляненне.

Да таго ж, на мой погляд, на рынку не ўсё ў парадку з бяспекай. Маналітная глухая агароджа з металу не толькі пазбавіла наведвальнікаў візуальнай інфармацыі, але і намёртва адгарадзіла тэрыторыю ад праезнай часткі. Аварыйны выезд з правага боку прадугледзелі (задраены, вядома ж), затое няма аварыйных выхадаў. З левага боку праходаў больш, але яны ніяк не абазначаны знутры, іх сярод кіёскаў яшчэ знайдзі паспрабуй. Два замкнёныя загоны паабапал выезду на кальцавую! Цікава, ці ступала там нага інспектара МНС?

Асабліва неўпарадкаваным і бесталковым падаецца правы бок тэрыторыі, дзе размешчаны гандлёвы гарадок "Лябяжы", начны агароднінны базар і аўтарынак, а таксама шырока вядомае "Поле цудаў". Дзе там што — даведацца можна, толькі распытваючы сустрэчных. Не абазначаны нават туалеты, якіх мінімум.

Нядаўна мне давялося пабываць на гэтым самым "полі". Там не самы заможны кантынгент насельніцтва прадае рэчы з рук (найбольш жалязякі). Ад прама ў бруд, пад ногі пакладзеных плёнак, ад незаасфальтаванага кутка, дзе людзям выдзелілі месца для дробнага гандлю, ад відавочнай непавагі да ўсіх нас мне стала не па сабе. "Скотны двор", — падумала я і патэлефанавала на гарадскую "гарачую лінію". Са мной доўга не размаўлялі: "Горад пакуль ждановіцкага рынку не ўзяў, пішыце заяву ў Адміністрацыю прэзідэнта". Паколькі я не абрадавалася такой перспектыве, мне далі тэлефон адпаведнай службы Мінскага раёна, на чыёй тэрыторыі рынак размешчаны.

У раёне сказалі, што яны "без понятия" і што Ждановічы — прыватнае прадпрыемства. (Як быццам за прыватнымі прадпрыемствамі не можа быць кантролю з боку дзяржавы.) Падумаўшы, пераадрасавалі мяне на свой гандлёвы аддзел. У аддзеле нехаця пабяцалі перш пазваніць у адміністрацыю, потым — параіцца з юрыстамі. На маё трэцяе тэлефанаванне ўпаўшы жаночы голас сказаў: "Паеду глядзець".

Што там "угледзелі", я высвятляць не стала. Толькі сляпы або зацікаўлены можа не бачыць бессаромнага заграбання грошай без стварэння цывілізаваных умоў для прадаўцоў і пакупнікоў.

Адміністрацыя рынку ў выхадны дзень, натуральна, адпачывае. Гарадская даведка не мае агульнага дзяжурнага тэлефона, па якім мы маглі б даведацца пра размяшчэнне аддзелаў і павільёнаў, паскардзіцца або ўнесці прапановы.

Што ж атрымліваецца? Горад "яшчэ" не ўзяў, раён "ужо" ні сном, ні духам, і толькі адміністрацыя мае ўладу над рынкам, але чамусьці ёй не карыстаецца. Адным словам, перад намі цэлы комплекс праблем, на якія варта было б звярнуць увагу. На жаль, няма каму...

Пасля напісання матэрыялу я адкрыла водгукі ў Сеціве, якія тычыліся рэчавага рынку. Цытую іх без перакладу.

"Страшные боксы, неприятно и грязно".

"Это настоящий хаос — вещевой рынок в Ждановичах, особенно сэкенд".

"Испортились Жданы, точно. Толпа людей, а вещи — мрак, по закидным ценам".

"Вчера была в Жданах. УЖАС! Цены БЕШЕНЫЕ! Торговать никто не хочет. Все чем-то недовольны, злые, нервные. Толпа людей. Продавцы курят прямо на рабочих местах, дымят в лицо. В общем, больше не поеду".

"Толпы жуткие, вещи обычные".

"Качество нулевое, цены заоблачные".

"Непонятная цена за парковку".

"Нет, не люблю я этот рынок. Устаю после него по-страшному. Назад не уехать. Слишком много людей".

Як бачым, гэтыя водгукі пацвярджаюць маё ўражанне ад самага вялікага рынку Мінска.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

*Мінск.*

З НАТУРЫ

# Дапіўся!

Бомж-выпівака падае прадаўшчыцы ў каўбасным аддзеле харчовай крамы рублёў 550—600, вядома, драбнатой (дзясяткамі і дваццаткамі) і жаласліва кажа-просіць: *"Можа, вы мне які кавалачак якой-небудзь каўбасы дасцё?"* Канечне, была ў яго спадзева гэтым спектаклем расчуліць мажную кабету за прылаўкам. А тая, глянуўшы на яго і яго "капітал", з агідай выпаліла: *"На такія грошы ні ў адной краме нашай краіны табе не тое што ні на адзін зуб не дадуць, а і ні адной ноздрай нюхнуць ніякай каўбасы не дазволяць. Бач ты, артыст знайшоўся! Дапіўся! Прапіў кватэру, краіну, дык яшчэ і краму маю туды ж збаёдаць хоча! А ну бяжы адсюль! Да тых, каму прапіў..."*

**Яўген ГУЧОК.**

